

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №17 (33)
ЛІСТАПАД 2015 ГОДА

КАЛОНКА РЭДАКТАРА

# НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ ЗАКАНЧВАЕЦЦА ТАМ, ДЗЕ ПАЧЫНАЕЦЦА НЕСВАБОДА

**Гэтымі днямі ў Кіеве і Менску праходзяць дзве мастацкія выставы.**

У нечым падобныя, яны розняцца між сабою, як дзень і ноч. І гэта розніца заключаецца ў ступені свабоды, якой валодаюць украінцы і якой не маюць беларусы.

У кіеўскім Цэнтры сучаснага мастацтва "М-17" адкрылася выстава "Украінскі патрыятычны плакат", а ў менскім Палацы мастацтваў – выстава, прысвечаная 25-годдзю аб'яднання «Пагоня».

Хто ня ведае шматразова паўторанага выслоўя: "Калі гавораць гарматы, музы маўчаць". Так, цяжка не пагадзіцца з тым, што ва ўмовах вайны мастацтва адыходзіць на другі план. Але ж разам з тым жывапіс і такі яго жанр, як плакат, набывае ў складанныя для народа часы асаблівае значэнне.

Працы ўкраінскіх мастакоў уражваюць сваёй патрыятычнай і нацыянальнай скіраванасцю, а прага міру і свабоды дамінуе ва ўсіх творах. Тая рэвалюцыя нацыянальнага духу, што адбылася ва Украіне, адухаўляе, акрыляе народ, стымулюе патэнцыяйныя магчымасьці нацыянальнаарыентаванайасобы,якія нішчацца ва ўмовах аўтарытарызму і залежнасьці народа ад свавольства ўладаў.

Трэба адзначыць, што кіяўляне самі абяруць найлепшыя плакаты, прагаласаваўшы за іх налепкамі, якія яны прымацоўваюць на сцяну побач з тым творам, які спадабаўся. Мае сімпатыі супалі з густамі бальшыні наведнікаў: я таксама аддаю перавагу плакату "Мая маленькая незалежнасьць". Сюжэт просты, але змястоўны: у птушынай клетцы, размаляванай белай, сіняй і чырвонай фарбай (расейскі трыкалор), застаюцца тры мленькія птушачкі ў колерах нацыянальных сцягоў Казахстану, Арменіі і Беларусі. А вось жоўта-блакітная птушка вырвалася на волю і высока ўзляцела ў неба: яна не проста вольна распрастала свае крылы, але й намагаецца ўзьляцець яшчэ вышэй. Радасна за сваіх найбліжэйшых братоў – украінцаў, якія ўсьвядоміўшы каштоўнасьць свабоды, абараняюць яе ад прагных памкненняз агрэсара. Абараняюць нават сродкамі мастацтва.

А цяпер некалькі словаў пра выставу ў Менску. Яе адкрыцьцё адзначылася скандалам: цэнзура Саюза мастакоў і Палаца мастацтваў зняла з выставы карціну мастака Аляксея Марачкіна «Паядынак, або супрацёў двухгаловым мутантаў»,зняла карціну Алеся Пушкіна «Памяці беларусаў, якія загінулі за свабоду Украіны» дый інсталяцыю з асколкам снарада «Граду». А на другі дзень знялі яшчэ дзьве карціны: мастацкае палатно Алеся Цыркунова, прысвечанае Другой сусветнай вайне і ўдзелу беларусаў у баях ля Монтэ-Касіна, а таксама карціну Уладзіміра Крукоўскага пад назовам «Што ж мы за людзі?», прысвечаную гербу «Пагоня».

Карацей кажучы, паздымалі ўсё, што тычылася Расейкай агрэсіі ва Украіне і беларускай нацыянальнай гісторыі.

Вось такая тут ступень мастацкай свабоды: маляваць у сваёй майстэрні можаш, што заўгодна, а вось далейшы шлях да глядача будзе цалкам залежыць ад волі альбо няволі чынавенства ад мастацтва.

Мова мастацтва, зразумелая людзям усяго свету без перакладу", ўплываючы непасрэдна на пачуцці чалавека, яна значна хутчэй даходзіць да яго розуму. Мастацтва дае магчымасьць агучыць зьявы сацыяльна-палітычнага характару ўласцівымі яму сродкамі і ацаніць іх з пункту гледжання маралі і этыкі. Ацаніць праз тыя вартасныя якасьці, якіх так не хапае ў сённяшняй Беларусі.

**Рэдактар**

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ

# СУСТРЭЧА З ВІЦЕБЧУКАМІ

**12 лістапада адбылося некалькі сустрэчаў вядомых менскіх літаратараў зь віцебскай публікай.**

Ва ўтульнай атмасфэры андэрграўнднага бітлз-клюбу госьці падзяліліся зь віцебчукамі сваімі плянамі і здабыткамі. Агледзеўшы залю, рэдактар часопісу « Дзеяслоў» Барыс Пятровіч адзначыў, што ў адрозьненьні ад першай сустрэчы, на якой прысутнічала нейкая частка выпадковых людзей, тут сабраліся асобы, неабыякавыя да літаратуры і культуры. Мо яно і так, але хацелася б, каб гэткіх людзей у «культурнай сталіцы» было куды больш.

Барыс Пятровіч, прэзэнтуючы зьмест апошняга, семдзесят восьмага нумару «Дзеяслову», адзначыў, што на самым пачатку гэтага літаратурнага праекту ніхто і не меркаваў, што часопіс настолькі доўга затрымаецца ў літаратурнай прасторы краіны. Але так сталася, і зараз невялічкі калектыў жыве ўжо новымі, наступнымі нумарамі, спадзеючыся дажыць да сотага нумару. Ужо цалкам падрыхтаваны 79-ты нумар, ідзе праца над 80-тым.

Пакуль ня скончылася падпісная кампанія, спадар Барыс нагадаў прысутным пра тое, што падпісацца можна ў любым паштовым аддзяленьні Беларусі. На сённяшні час сытуацыя склалася такая, што, у адрозьненьне ад часопісаў « Полымя» і « Маладосць», дзе падпіска збольшага бібліятэчная, у «Дзеяслове» індывідуальная падпіска значна большая, чымся бібліятэчная. Некалі яна складала каля трохсот асобнікаў, але паступова зьнізілася прыблізна да сотні. Таму стваральнікі часопісу найперш арыентуюцца і разьлічваюць на канкрэтных чытачоў. Хаця, прыяжджаючы на сустрэчы ў бібліятэкі, яны бачаць, што нумары «Дзеяслову» зачытаныя, а да іншых часопісаў чытачы часам і не дакранаюцца.

Своеасаблівай сэнсацыяй сталася публікацыя ў апошнім нумары дзённікаў Уладзімера Караткевіча. З друкам дзённікаў існуе два падыходы: адны зь пісьменьнікаў друкуюць іх пры жыцьці, дзённікі ж іншых выходзяць ужо пасьмяротна. Хаця і тут ня ўсё проста. Напрыклад, сям'я Янкі Брыля не згаджаецца на публікацыю дзённікаў пісьменніка нават пасьля дзевяці гадоў з таго часу, як ён памёр, і на кантакт не ідзе. Сям'я Генадзя Бураўкіна таксама кажа, што час друкаваць дзённікі яшчэ не надышоў.

Што тычыцца Караткевіча, ніхто пры яго жыцьці ня ведаў, што ён піша дзённік. Гэта ня проста дзённік – гэта мастацкі твор. Пачаў пісаць ён яго ў 1965 годзе, калі быў далёка ад Беларусі, і разам з Рыгорам Барадуліным служыў ваенным карэспандэнтам ва Уладзівастоку. Цікава, што ў дзённіку пісьменнік найперш раскрываецца як чалавек. Аднак дзённік выйшаў з пэўнымі купюрамі, друкаваць яго цалкам не дазволіла пляменьніца пісьменьніка.

Ёсьць у нумары і новая аповесьць Уладзімера Някляева, апавяданьне Віктара Карамазава пра мастакоў, аповесьць Вінцэся Мудрова пра Альбанію, якая непасрэдна зьвязаная і зь Беларусьсю і распавядае пра тыя часы, калі албанскія студэнты навучаліся ў нашых ВНУ.

Закрануў Барыс Пятровіч у сваім выступе і атрыманьне Сьвятланай Алексіевіч Нобэлеўскай прэміі. Пісьменнік усьцешаны, што беларусы нарэшце атрымалі свайго нобэлеўскага ляўрэата. Вакол яе імя было шмат спрэчак, але пасьля гэтай падзеі іх быць ужо не павінна, бо ва ўсіх новых энцыклапэдыях, дзе б яны ні выходзілі, у дужках пасьля яе імя будзе стаяць адно слова – «Беларусь», якое здымае ўсе спрэчныя пытаньні. Цяпер ва ўсім сьвеце яе будуць успрымаць, як беларускую пісьменьніцу. Гэтаксама, як Ёсіфа Бродзкага ўспрымаюць амэрыканскім паэтам.



Алесь Пашкевіч прэзэнтаваў сваю аповесьць «Рух», якую назваў нечаканай. Так сталася, што беларусы ня вынайшлі ані кола, ані ровару, але тое, што яны спрычыніліся да вынаходзтва дызэльнага рухавіка – гэта дакладны факт. Аповесьць распавядае пра вынаходніка дызэля Рудольфа Дызеля, памочнікам якога быў беларус, сын паўстанцаў 1863 году. За жонку ён узяў дачку бакінскага нафтавага магната. Апошні не хацеў гэтага шлюбу, але вымушаны быў зьмірыцца, бо закаханы малады чалавек зьвёз ягоную дачку ў свой Парыж. Гэты яго ўчынак – можа, яшчэ больш значная ягоная заслуга, чымся ўдзел у стварэньні дызельнага рухавіка. Кніга да таго ж яшчэ і пра шпіёнаў. Як былы паэт і чалавек з гумарам, Алесь Пашкевіч паспрабаваў патлумачыць назву сваёй аповесьці, зыходзячы з настальгіі па рыфме. Маўляў, першая аповесьць называлася «Круг», другая – « Рух», наступная можа быць «Зух», і ў гэтым кірунку існуе вялікая прастора магчымасьцяў для творчасьці.

Напачатку ён паспрабаваў пераказаць аповесьць сваімі словамі, але, адчуваючы ўсю бясплённасьць такой справы, зачытаў досыць інтрыгуючы ўрывак пра вярбоўку нямецкай контрвыведкай расейскага афіцэра.

Прыемнай неспадзяванкай стаўся выступ знанага беларускага барда Зьмітра Бартосіка, імя якога не было анансаванае. Выканаўца аўтарскай песьні гэтым разам парадаваў прысутных вядомымі расейскімі песьнямі Булата Акуджавы, Уладзімера Высоцкага, Аляксандра Вярцінскага, Апалона Грыгор'ева ў арыгінальных перакладах на беларускую мову Рыгора Барадуліна. Асабліва ўражаньне слухачы атрымалі ад выканання ўсімі вядомай «Цыганачкі», якую ён сьпеў у непаўторнай аўтарскай інтэрпрэтацыі.

Сустрэча завяршылася выступам маладога паэта Ўсевалада Сьцебуракі. Яму страшэнна спадабалася «паддашкавая» прастора памяшканьня, зь якой ён вылучыў два рознакаляровыя ліхтарыкі, што ўяўлялі сабой гэтакі жоўта-зялёны сьветлавы акцэнт. Вылучыў у першую чаргу мо з тае прычыны, што толькі яны маглі дазволіць больш-менш паўнавартасна бачыць вершы зь ягонага зборніку, якія ён урэшце і прачытаў.

ЭКАКОНКУРС

# ЛУЧШАЯ «ЭКОУСАДЬБА ГОДА»

**Победители и лауреаты шестого ежегодного конкурса "Лучшая агроэкоусадьба Витебской области" названы 17 ноября на торжественном мероприятии в Витебском облисполкоме.**

На звание лучших в пяти номинациях претендовали 15 агроусадеб. Причем как никогда много оказалось новичков сферы, у которых был особый стимул к участию - заявить о себе и попробовать завоевать приз в номинации "Лучший старт". В итоге компетентное жюри присудило награду хозяину усадьбы "Простоквашино" в Оршанском районе.

Усадьба с названием "Звон-гора", созданная в экопоселении в Витебском районе, названа лучшей в номинации "Экоусадьба года". Ее хозяин Владислав Мишурный принимает гостей в своем родовом поместье, подкупая национальным колоритом, сельской романтикой и экологически чистыми продуктами.

В номинации "Сохранение белорусских традиций" победила усадьба "Хата пад клёнамі" в Поставском районе. Как пояснил ее хозяин, сам он рос в деревне, поэтому гостевой дом построен с соблюдением традиций предков. А хозяева угощают туристов домашним сыром и творогом, приготовленным в печи, и другими блюдами из экологически чистых продуктов, частично - со своего подворья.

"Здоровый образ жизни" активнее всех популяризирует в усадьбе "Николаевский посад" в Ушачском районе Николай Подрез. Кроме бани, спортивной площадки и места для готовки на углях он предлагает оборудованный кемпинг, где туристы могут остановиться в своих палатках.

У хозяйки усадьбы "Лука" в Полоцком районе Елены Прудняченок за 7 лет работы появились постоянные клиенты из Беларуси, России, Латвии, которые любят отдыхать по несколько дней семьями с детьми и ценят особый душевный прием хозяйки. Поэтому она признана победителем в номинации "Гостеприимство".

И в целом, как отметила заместитель начальника управления спорта и туризма облисполкома Дарья Мацкевич, большинство владельцев усадеб региона сделали в своей работе акцент на сохранении аутентичности. Они создают музеи народного творчества, проводят этнофестивали и праздники, организуют пешие, конные, велотуры и предлагают экскурсии по историческим местам. Всего в регионе зарегистрировано 603 агроусадьбы. Лидеры по их количеству - Браславский, Поставский, Миорский, Глубокский, Полоцкий и Россонский районы.

В 2014 году агроусадьбы области посетили более 32,3 тыс. туристов, в том числе 4,7 тыс. иностранцев из 29 государств. Преимущественно за спокойным сельским отдыхом и новыми впечатлениями приезжают россияне.

По словам заместителя председателя облисполкома Владимира Терентьева, в этом году завершается реализация Программы инновационного и инвестиционного развития Витебской области на 2011-2015 годы, которая включает подпрограмму "Пятьсот". Одна из задач подпрограммы - создание в регионе 100 субъектов агроэкотуризма. За 4 года и 9 месяцев на Придвинской земле начали деятельность 283 усадьбы. Также с 2006 года в области успешно реализуется программа участия ОАО "Белагропромбанк" в развитии агроэкотуризма.

Конкурс организуется и проводится Витебским облисполкомом совместно с ОАО "Белагропромбанк" и Белорусским общественным объединением"Отдых в деревне" при поддержке спонсоров.

**www.belta.by**

СВАБОДА СЛОВА

# ДАЛУЧЫЛІСЯ ДА СУСЬВЕТНАЙ КАМПАНІІ

**У перадпачатку сусьветнай кампаніі «Станем за журналістыку» на знак салідарнасьці з калегамі па ўсім сьвеце прадстаўнікі незалежных сродкаў масавай інфармацыі Віцебску пасадзілі невялічкую алею.**

5 лістапада Міжнародная фэдэрацыя журналістаў штогод ладзіць сусьветную кампанію прафэсійнай салідарнасьці «Станем за журналістыку». Тэму для кампаніі журналісты кожнай краіны абіраюць самі.

Сёлета сябры віцебскай арганізацыі ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» (БАЖ) правялі сваю мясцовую кампанію пад лёзунгам «Станем за вольны байнэт». Гэткім чынам журналісты абазначылі наяўнасьць праблемы са свабодай слова ў беларускім сэгмэнце інтэрнэту і выказалі сваё стаўленьне да спробаў кантролю над Сецівам з боку ўладаў.

У адным са спальных мікрараёнаў Віцебску прадстаўнікі незалежных сродкаў масавай інфармацыі пасадзілі некалькі бярозак і клёнаў. Атрымалася невялічкая алея. Кожнае высаджанае дрэўца набыло сваю назву: «Дрэва ў гонар 20-годзьдзя БАЖ», «Дрэва салідарнасьці журналістаў», «Дрэва будучыні незалежнай прэсы»...

Пасьля таго, як дрэўцы былі пасаджаныя, на кожнае зь іх «прыляцела» свая папяровая птушка. Падалося, што віртуальныя птушкі, выпушчаныя журналістамі летась у гэткі самы дзень з клетак, пранесьліся праз увесь горад і, нарэшце, здолелі даляцець да сваіх дрэваў.

Нагадаем, роўна год таму сямёра віцебскіх журналістаў і грамадзкіх актывістаў у межах леташняй кампаніі «Станем за журналістыку» зладзілі фотасэсію на фоне графіці з выявай папяровых птушак і клетак. Удзельнікі фотасэсіі трымалі ў рукох зробленыя з паперы клеткі і птушак-арыгамі. Супрацоўнікі праваахоўных органаў расцанілі фотасэсію як несанкцыянаваны пікет. У выніку шасьцёра ўдзельнікаў фотасэсіі былі пакараныя штрафамі ў памеры ад 18-ці да 25-ці базавых велічынь. Яшчэ адзін удзельнік быў падвергнуты адміністрацыйнаму арышту тэрмінам трое сутак.

**Віцебская вясна**

ПРАВАВАЯ БЯЗГЛУЗЬДЗІЦА

# И БЛАГОДАРНОСТЬ, И ШТРАФ

**Министр обороны объявил письменную благодарность братьям Мишурным, а на следующий день административная комиссия Витебского райисполкома наложила на одного из братьев административное взыскание в размере 10 базовых величин.**

5 июля житель агрогородка Копти 25-летний Владимир Мишурный вместе со своим братом-школьником Кириллом в лесном массиве вблизи населенного пункта искали металл, который во времена советской бесхозяйственности попал в прилегающие к деревне леса. Кусок металла, который торчал из земли, заставил взяться за лопату. Вскоре приблизительно на глубине полметра парни наткнулись на человеческие останки и предметы времен минувшей войны: металлические осколки, гильзы, пули. Между прочим нашли бритву с надписью и медаль «За отвагу» № 647144.

Ставлю себя на место парней и понимаю, что остановиться в такой ситуации и не продолжать дальше раскопок, потому что это запрещает закон, попросту было нереально. Ведь надо учитывать, что учеников Коптянской школы с младших классов учителя приучают ухаживать за известным на весь Витебский район воинский мемориал, расположенный в деревне; принимают дети участие и во всех мероприятиях, связанных с перезахоронением найденных в окрестностях останков воинов.

В тот же день о своей находке братья сообщили односельчанину, ветерану войны Виктору Терещенко. Ему же они передали и медаль с индивидуальным номером. Переполненные впечатлениями от найденного и увиденного, парни предложили господину Терещенко перенести останки неизвестных воинов из леса и похоронить на воинском мемориале имени Ленинского комсомола, за которым тот ухаживает. Ветеран дал согласие.

Через пару месяцев, 8 сентября (праздничное мероприятие отложили до тех пор, пока по материальным свидетельствам сотрудники облвоенкомата выяснят фамилии погибших), на воинском мемориале в узком кругу прошли похороны двух неизвестных солдат, найденных парнями.

10 сентября об упомянутом выше событии в газете «СБ – Беларусь сегодня» была опубликована заметка Виктора Терещенко «Одна фамилия и номер на двоих». Затем на встрече с министром обороны страны ветеран войны Терещенко также упомянул о находке братьев Мишурных. Министр положительно оценил это событие и выразил ребятам письменную благодарность за возвращение из небытия, как минимум, еще одного имени погибшего воина.

Но тем временем «бдительное око» районного идеолога в действиях Владимира и Кирилла Мишурных усмотрело признаки нарушения статьи 19.7 административного кодекса (нарушение порядка вскрытия воинских захоронений либо проведения поисковых работ в местах, где велись боевые действия или совершались карательные акции). Санкция данной статьи предусматривает наложение штрафа в размере от десяти до тридцати базовых величин.

Для проверки достоверности факта проведения поисковых работ и выяснения обстоятельств дела был совершен выезд на место комиссии в составе участкового инспектора инспекции по делам несовершеннолетних Дениса Медведицкого, районного идеолога Марины Здольниковой и заместителя председателя исполнительного комитета Витебского района Ксении Карабач. По результатам проведенной проверки начальником отдела идеологической работы, культуры и по делам молодежи Витебского райисполкома госпожой Здольниковой был составлен протокол №1 (не первый ли за все время?).

А спустя несколько дней административная комиссия Витебского районного исполнительного комитета под руководством председателя комиссии Козловой Д.Н. «на основании статьи 3.1 Процессуально-исполнительного кодекса Республики Беларусь об административных правонарушениях, рассмотрев материалы дела, не установила никаких обстоятельств, которые бы смягчали или отягощали административное правонарушение», и наложила на Владимира Мишурного административное взыскание в размере 10 базовых величин (один миллион восемьсот тысяч рублей).

Говорит Владимир Мишурный: «Закон, конечно, есть закон, но я не считаю себя виновным. По-человечески, несправедливо это. За сделанное нами не штраф нужно давать, а премию. К тому же я не раскопки осуществлял, а металл собирал. И на останки мы совершенно случайно наткнулись».

При всем уважении к закону, в этом конкретном случае невозможно согласиться с соответствием наложенного наказания содеянному. Если же сравнить этот факт с тем уровнем мародерства, которое совершалось в течение нескольких десятков лет на месте массовых захоронений в лесу возле деревни Хайсы, где неизвестные вскрыли несколько десятков могил, то и вообще к руководству района возникает много довольно острых вопросов.

Коптянские ребята, воспитанные в духе патриотизма, за свое уважение к прошлому получают штраф, а поиском преступников-мародеров, перерывших пол-леса под Хайсами, не интересуются ни местная власть, ни местная милиция. Странное отношение к закону, которое не поддается здоровой логике.

**АБ'ЯВА**

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





ЗНЕШНЯЯ ПАЛІТЫКА

# ЯК ПРАДАЦЬ СІНЯВОКУЮ СТАБІЛЬНАСЦЬ?

**Жудасныя тэракты ў Парыжы зноў прымусілі скалануцца ўвесь свет. Свет ужо даўно і не да канца асэнсавана ўступіў у новую рэальнасць, калі межы не з'яўляюцца перашкодай для тэрарыстычнай вайны.**

Аналітыкі сходзяцца ў думках, што зараз найвялікшай каштоўнасцю для ўсіх становіцца бяспека, спакой і стабільнасць.

Канешне, шок ад тэрактаў пройдзе — пра «Charlie Hebdo» і мільённыя акцыі салідарнасці з часопісам усе даволі хутка забыліся (што, магчыма, дало глебу да больш маштабнага паўтору сітуацыі). Аднак усё роўна на фоне барацьбы з «ІД», на фоне ўкраінскага канфлікту, амаль даказанага тэракту на борце расійскага рэйса «Кагалымавія» ў Егіпце, наша краіна застаецца выспай той самай бяспекі і стабільнасці, якія, паўтаруся, усё больш каштуюць у свеце.

Эксперты кажуць, што ў выніку парыжскіх падзеяў афіцыйны Мінск пакуль што апынуўся ў выйгрышы. Месяц прайшоў пасля беларускіх выбараў, два тыдні — пасля чарговай інаўгурацыі Лукашэнкі, БДІПЧ АБСЕ яшчэ не паспела стварыць канчатковы даклад па назіранні, а свет пра Беларусь ужо забыўся. Бо ў нас усё ў парадку, у нас не страляюць і не ўзрываюць. У адрозненне, дарэчы, амаль ад усіх нашых суседзяў: Расіі, дзе ўзарвалі самалёт, Украіны з яе Данбасам, ЕС з Парыжам і крызісам уцекачоў.

Ёсць два шляхі дзеяння ў гэтай сітуацыі. Першы: сядзець моўчкі і ганарыцца сваёй стабільнасцю. Шлях другі — паспрабаваць манетызаваць гэтую стабільнасць.

Пакуль беларускія ўлады паспяхова ідуць па першым шляху. Аднак гэтая спрыяльная сітуацыя не будзе цягнуцца вечна. Зазначым, што Францыя пачала ўдзел у паветранай аперацыі ў Сірыі амаль адначасна з Расіяй. Адказ на гэтыя бамбардзіроўкі атрыманы не толькі французамі — расіяне атрымалі тэракт на борце «Кагалымавія», у выніку якога загінулі 224 чалавекі. Зразумела, ні Францыя, ні Расія не пакінуць тэракты без адказу: яны толькі ўзмоцняць аперацыі супраць «ІД». Гэта, канешне, павялічыць пагрозу далейшых тэрарыстычных атак, аднак пакінуць ісламістаў у спакоі — яшчэ найгоршае выйсце.

Пагроза тэрарызму ў Расіі пачне ўзрастаць найперш там, дзе яна мяжуе з ісламскім светам: на паўднёвых межах. Беларусь з Расіяй у адным ваенным блоку — АДКБ. І калі ў саюзніка на поўдні пачнецца «прасочванне» тэрарыстаў, мы абавязаны будзем дапамагчы, — калі нас, канешне, пра гэта папросяць. Галоўнае — дапамагчы так, каб і стабільная і сінявокая потым не стала мішэнню «ІД». Ці трэба выходзіць з АДКБ.

Днямі Аляксандр Лукашэнка абвясціў, што спадзяецца на сустрэчу з Пуціным, каб вырашыць «праблемныя пытанні, калі яны ёсць». Між тым відавочна, што ў Пуціна зараз сваіх пытанняў хапае — і з Данбасам, і з Сірыяй. Думаю, што ў кіраўніка Беларусі ёсць спадзеў: Пуцін дасць загад «разабрацца» з беларускім экспартам і дасць, можа быць, колькі грошай, абы Аляксандр Рыгоравіч у гэты складаны час ад яго адчапіўся, бо не да яго зараз.

У той час, калі расійская авіяцыя найбольш запатрабаваная ў Сірыі, можна адкласці на нявызначаны час і пытанне стварэння ў сінявокай расійскай авіябазы. Прынамсі, гэта адно з найбольш складаных пытанняў у размове з Пуціным для беларускага правадыра. Бо той сапраўды мае права запытацца ў Аляксандра Рыгоравіча: гаварыў ён ці не гаварыў пра расійскую авіябазу. І чаму адмаўляецца ад сваіх словаў?

Ход канём беларуская дыпламатыя можа зрабіць і ў бок Еўропы. Напрыклад, агучыць ім прапанову прыняць у Беларусі, напрыклад, мільён уцекачоў з Блізкага Усходу. А што? Кіраўнік краіны неаднаразова заяўляў, што ў Беларусі павінна быць не дзевяць мільёнаў, а дваццаць, а тое і трыццаць мільёнаў насельніцтва. Вось мы і прапануем ім за адпаведны ганарар пакінуць сабе пэўную колькасць сірыйцаў.

Гэта даволі бяспечна, таму што тыя ўцекачы ў Беларусь усё роўна не паедуць. Яны імкнуцца ў тыя краіны, дзе моцныя для іх сацыяльныя гарантыі, дзе можна жыць на дапамогу, не працуючы: Швецыя, Германія, Вялікабрытанія, тая ж Францыя. Каб уцекачы шукалі проста спакойнага жыцця, яны б паасядалі ў транзітных краінах: тых жа Сербіі, Чарнагорыі, Харватыі і іншых. Але яны прагнуць не толькі бяспекі, але і дабрабыту. Беларусь жа ім грошай не дасць — сваім не хапае.

Тым не менш, такая прапанова зробіць профіт беларускаму МЗС на еўрапейскай арэне.

Зразумела, што на гэтым фоне можна яшчэ раз паспрабаваць прадаць Захаду старую байку пра тое, што Беларусь з'яўляецца надзейным шчытом на шляху незаконнай міграцыі з усходняга боку. І, зразумела, не толькі незаконнай міграцыі, а таксама зброі з Усходу Украіны. Заходнія партнёры зараз вельмі ацэняць такія высілкі і намаганні — нешта можа абламіцца на мадэрнізацыю мяжы.

Можна яшчэ шмат што прыдумаць. Галоўнае — не марнаваць час магчымых бонусаў нашай стабільнасці.

**Сяргей Пульша**
**"Новы час"**




ІНАЎГУРАЦЫЯ

# ДЗЯРЖАВА ДЛЯ НАРОДА

**Падчас інаўгурацыі Аляксандар Лукашэнка выступіў з палымянай прамовай ў абарону сацыяльнай дзяржавы, на якую нібыта замахнуліся рэфарматары з уладных кабінэтаў. Ён намаляваў вусьцішную карціну, у якой дзеці і старыя бязьлітаснай рукой прыхільнікаў рэформаў будуць кінутыя ў рынкавую стыхію. Але на шляху гэтых бяздушных людзей паўстае як магутны волат народны прэзыдэнт.**

Адгрымелі фанфары, адсьпявалі песьні на ўрачыстым канцэрце, усенародна адсьвяткавалі пачатак чарговага тэрміну прэзыдэнцтва дзейнага кіраўніка. Пачаліся шэрыя будні. І што мы бачым? Аляксандар Лукашэнка пачаў уласнымі рукамі цішком дэмантаваць тую самую сацыяльную дзяржаву, якую ён так апантана абараняў на інаўгурацыі літаральна некалькі дзён таму.

Прэзыдэнцкі ўказ № 460 ад 16 лістапада прадугледжвае скарачэньне дзяржпадтрымкі пры будаўніцтве і куплі жыльля, зьмяншэньне жыльлёвых ільготаў. Так, дзяцям-сіротам і дзецям, якія засталіся без апекі бацькоў, цяпер будуць даваць сацыяльнае жыльлё толькі на 5 гадоў з правам атрыманьня ільготнага крэдыту на будоўлю сваёй кватэры. Указ прадугледжвае зьмяншэньне памеру фінансавай дапамогі шматдзетным і маладым сем'ям на пагашэньне запазычанасьці па льготных крэдытах пры адмене ўсынаўлення (удачарэньня) дзяцей. Паводле ўказу цяпер дзяржаўныя органы і арганізацыі атрымліваюць права абвяшчаць інтэрнацкае жыльлё кватэрамі і ўключацых у склад жыльля камэрцыйнага выкарыстаньня. Менш становіцца катэгорыяў тых грамадзян, якія маюць першачарговае права на камэрцыйнае жыльлё. Скарачаюцца льготы па плаце за карыстаньне камэрцыйным жыльлём. Указ забараняе ставіць у чаргу на жыльлё тых грамадзян, якія маюць жыльлё, прызнанае непрыдатным для пражываньня.

Або возьмем той жа нядаўні дэкрэт № 7, які абкладае 13-працэнтным падаткам даходы ўкладчыкаў ад банкаўскіх дэпазытаў. Афіцыйныя асобы і дзяржаўныя мэдыі, камэнтуючы гэты заканадаўчы акт, акцэнтуюць увагу на тым, што дасюль для беларускіх укладчыкаў былі створаны ўнікальныя льготныя ўмовы. Маўляў, падаткі на ўклады ў суседніх краінах яшчэ нават вышэйшыя і існуюць даўно.

Але варта зазначыць, што Беларусь за апошнія 20 гадоў — рэкардсмэн сьвету па інфляцыі. З 2009 году (за шэсьць гадоў) беларускі рубель дэвальваваўся ў восем разоў (з 2200 да 17880 рублёў за даляр). Гэта ж таксама ўнікальная ў сьвеце сытуацыя. Таму і спатрэбілася трэцяя дэнамінацыя. Зразумела, чаму інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чаканьні ў беларускім грамадзтве такія беспрэцэдэнтныя. Таму ўлады і вымушаныя былі рабіць надзвычайныя захады, каб іх зьбіць, ствараючы льготныя ўмовы для ўкладчыкаў. Гэтыя льготы і ўратавалі фінансавую сыстэму краіны ад поўнага каляпсу. Высокія працэнты па ўкладах — гэта інструмэнт ратаваньня даходаў беларускіх грамадзян ад інфляцыі, якая штогод вызначаецца двузначнымі лічбамі. То бок згаданыя высокія працэнты — гэта не празьмерны клопат дзяржавы пра народ, а адзіны рацыянальны спосаб ратаваць неэфэктыўную эканамічную сыстэму. А цяпер у людзей і тое забіраюць. Лягічна, што адным зь відавочных наступстваў дэкрэту № 7 стала падзеньне курсу беларускага рубля. Што, у сваю чаргу, б'е па даходах насельніцтва.

17 лістапада Аляксандар Лукашэнка сустрэўся з кіраўніком місіі МВФ па Беларусі Пітэрам Долманам. Як вядома, Міжнародны валютны фонд у якасьці ўмовы выдзяленьня крэдыту патрабуе поўнай аплаты насельніцтвам камунальных паслуг. І, як ні дзіўна, абаронца сацыяльнай дзяржавы з гэтым пагадзіўся. «Формула адна: атрымліваеш паслугу — плаці за гэтую паслугу ў поўным аб'ёме. Няхай гэта будзе электрычнасьць, цяпло, транспартнае абслугоўваньне і гэтак далей», — сказаў Лукашэнка на гэтай сустрэчы.

Карацей, як любіць казаць Лукашэнка, у нас жа дзяржава для народа.

**Валер Карбалевіч**
**"Радыё Свабода"**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# “НАСТОЯЩИЙ ВРАГ БЕЛАРУСИ — ОПГ «АПК»”

**Белорусскую экономику захватили в плен аграрные бароны. Колхозно-совхозное лобби продолжает издеваться над Br-рублем, кошельками белорусских потребителей, бюджетом страны и честным бизнесом. Ни одна отраслевая организованная группировка не нанесла Беларуси такой ущерб, как АПК (агропромышленный комплекс).**

Столько лет творить безобразия на белорусской земле, издеваться над крестьянами и фермерами могли себе позволить только те, кто имел самое высокое политическое покровительство.

Недавние аресты бизнесменов, которые обслуживали ресурсные, товарные и денежные потоки сельского хозяйства (сенатор Андрей Павловский и ООО «Биоком», ООО «Консул») — это лишь вершина айсберга. «Кормовое дело» логично дополнить делами о том, как проходила закупка техники, сырья, животных, растений, агростроительство и т.д.

Оценочно, АПК является кормушкой для аграрной VIP-номенклатуры и «красных» помещиков, из которой они ежегодно извлекали в свои личные, семейные капиталы по $2,5-3 млрд. Нет сомнения, что в эту фантастическую по масштабу диверсию против белорусской экономики свой вклад внесли банкиры.

Заметим, что данная волна разоблачений началась 15 месяцев спустя после принятие четырех указов Лукашенко о развитии агропромышленного сектора (17.07.2014). Резкое ухудшение финансовых показателей АПК после принятия этих документов, накопление долгов и неплатежей, рост коррупционных дел — всё это доказывает полное фиаско официальной аграрной политики.

**Аграрная цикута**

Только в 2011-2015 гг. на финансирование госпрограмм оргруппировки «АПК» было выделено ~44 млрд. С 1995 по 2015 гг. аграрные бароны оценочно выкачали из государства около $100 млрд. Сто миллиардов долларов!

Один из официальных лоббистов АПК вице-премьер Михаил Русый признает, что с/х предприятия избалованы государственным попечительством. Они не думают о своем собственном экономическом здоровье. Они используют гораздо более надежный, чем зарабатывание, способ получения денег — прямое выбивание их из бюджета и банков.

Поскольку более чем за 20 лет власти не сформировали правовые и административные механизмы наказания с/х организаций за коммерческие провалы, то у «красных помещиков» не могло сформироваться ответственное отношение к земле и тому бизнесу, который они на ней затеяли.

Совмин и облисполкомы провели анализ деятельности АПК и сделали «неожиданное» открытие: «Часть организаций системы Минсельхозпрода не способна самостоятельно проводить хозяйственную деятельность». «…Убыточные предприятия продолжают штамповать никому не нужный товар в убыток себе. Такого не должно быть».

От «не должно быть» до «не будет» могут пройти десятилетия. Вероятность сохранения штамповки долгов и неликвидов для страны и одновременно многомиллионных капиталов для VIP-аграрных баронов очень высока. Даже если будут упакованы за решетку все руководители оргруппировки «АПК» (как внутри органов госуправления, так и в частном бизнесе) сегодня, через год сама существующая система воспроизведет других, с такими же качественными параметрами.

У каждого начальника есть заместители. У номенклатурных начальников и их партнеров в бизнесе накопились большие свободные ресурсы. Чтобы заинвестировать их в АПК, его нужно очистить от старых начальников и их связей. Именно этот процесс мы сегодня наблюдаем.

**Где деньги, братаны?**

В январе-августе 2015 г. чистая прибыль всего сельского хозяйства составила всего Br2 трлн, что в 2,2 раза меньше в номинальном выражении, чем в аналогичном периоде 2014 г.

Рентабельность продаж по конечному финансовому результату (без господдержки) всего номенклатурного фаворита составило минус 2,5%. Количество убыточных организаций выросло вдвое, а удельный вес убыточных с/х предприятия без господдержки составил 65,6%. Сумма чистого убытка (без господдержки) сельского хозяйства по состоянию на 01.09.2015 г. составило Br3,4 трлн.

Для сравнения: долги по кредитам составили Br54 трлн, просроченные долги по кредитам — Br2,68 трлн. Это значит, что всё сельское хозяйство за январь-август 2015 г. получило чистой прибыли меньше, чем накопило просроченных долгов, а они составляют только 5% от общей суммы задолженности по кредитам. При чистой прибыли всего сельского хозяйства в 2015 г. примерно в объеме $1,7 млрд. сумма только государственной поддержки больше в три раза.

Белорусская ОПГ «АПК» превращает $5 млрд живых денег в $1,7 млрд чистой прибыли. Не удивительно, что вопрос, где деньги, братаны? всё чаще звучит в кабинетах Следственного комитета, КГБ и МВД.

Всякой наглости, жадности и цинизму в условиях «социально ориентированной» белорусской экономики есть предел. Лукашенко в условиях рецессии, падения уровня жизни, роста напряжения в бюджете и банковской сфере не может гладить аграрных баронов и «красных помещиков» по головке и благословлять еще на пять лет омертвления потенциально прибыльного сектора национальной экономики.

**Аграрный передел**

Аграрные бароны не намерены входить в сложное положение бюджета и налогоплательщиков. Они требуют получить свои дотации. При этом они согласны отдать в расход нескольких особо зарвавшихся представителей ОПГ «АПК».

В 2016 году только непосредственно из бюджета М. Русый хочет выбить около $1 млрд. Это только разминка. Общие расходы на поддержку колхозно-совхозного АПК будут $3,5-4 млрд.

Чтобы прикрыть наглые схемы откровенного выманивания денег из бюджета, представители оргруппировки «АПК» обещают «переспециализацию производства и ликвидацию неэффективных видов деятельности». Чтобы быть модным, аграрные лобби обещают внедрение новых технологий и научных открытий. А ещё они обещают «контролируемое досудебное антикризисное управление».

В переводе на понятный язык это будет означать следующее: банки могут забыть о погашении кредитов из АПК. Ликвидировать будут не генераторов убытков, долгов и токсичных активов, а «виды деятельности».

Система управления сельским хозяйством останется прежней. Земля останется вотчиной аграрных баронов и их «красных помещиков». Без неё превращение сельского хозяйства в полноценный бизнес невозможно. Самые влиятельные из них под видом «антикризисного управления» будут присваивать себе самые «вкусные» куски собственности, прежде всего, землю. Разумеется, такого рода дерибан будет проходить при публичном отрицании и осуждении рыночной приватизации.

Лоббисты ОПГ «АПК» сохраняют основные источники получения аграрной ренты: жесткое регулирование цен, государственный заказ, государственное финансирование закупки техники, средств защиты растений и других факторов аграрного производства.

Как очередная угроза макроэкономической стабильности звучит признание М. Русого о том, что в контексте реструктуризации долгов «в настоящее время есть понимание банковской системы сложности финансовой ситуации в отрасли и готовность к конструктивному диалогу».

И здесь уместно указать на тихую деструктивную роль банков. Если верить словам вице-премьера, 68% кредитов сельского хозяйства привлечено на общих основаниях, т.е. под 36-45% годовых в Br-рублях. На погашение основного долга и уплату банковских процентов с/х организации в январе-августе 2015 г. направили 24% своей выручки, а предприятия переработки — около 43%.

Вице-премьер М. Русый формально прав: «…Надо понимать, что ничего списываться не будет, все должно возвращаться — через год, три, семь, но должно возвращаться».

Действительно, никакого списания не будет. Будет реструктуризация долгов, слияние и поглощение, оптимизация ресурсов и сбалансирование потенциала ОПГ «АПК» с новой экономической реальностью. Такова речёвка для населения. На деле место структур типа «Биоком» или «Консул» или просто их собственников и руководителей будет занято новыми фаворитами руководства Вертикали власти. И, понятное дело, никакой коррупции…

*(скарочана)*

**Ярослав РОМАНЧУК**
**“Белапан”**

МЕДЫЦЫНА

# БАТАРЕЙКА В ОРГАНИЗМЕ РЕБЕНКА

**В Полоцке врачи за 9 дней не смогли увидеть в организме ребенка батарейку. Малышка Женя стала инвалидом.**

Против врачей местной больницы, которые занимались двухлетним ребенком, возбуждено уголовное дело за ненадлежащее исполнение профессиональных обязанностей. Мама пострадавшей девочки рассказала TUT.BY подробности этого случая.

«Все началось с того, что 12 августа дочку начало тошнить, она стала плохо кушать. В больнице ей сделали рентген, но батарейки в организме врачи не увидели. Поставили диагноз: простуда. Через пять дней состояние ухудшилось. Сделали второй рентген — и снова не увидели батарейку. Снова диагностировали простуду. То, что в организме инородное тело, врач в Полоцке предположил только через 9 дней — 21 августа, когда ребенок был уже в коме. Спасали Женю минские медики. И им я очень благодарна: они действительно бились за жизнь моего ребенка», — рассказала Екатерина.

По словам молодой женщины, собственными глазами она не видела, как и когда ребенок проглотил батарейку. Но мама подозревала это: «Я купила три батарейки, потом одной недосчиталась. Но медики ее на рентгене не увидели, и мы им доверяли: они же знают, что говорят и делают».

Позже Женя перенесла три операции. «У нее уже нет пищевода, пострадал мозг. Она сейчас как младенец: не говорит, плачет, скрипит зубами, засыпает только на руках. Предстоит еще операция… Мы ищем реабилитационный центр за пределами страны. Я уверена, что все эти страдания моего ребенка — из-за действий полоцких медиков. Уже три месяца мы бьемся за здоровье своей девочки. А ведь Женя была абсолютно здорова, мы собирались через три дня идти в садик…».

Расследование по этому факту ведут сотрудники управления СК по области. Назначена комиссионная судебно-медицинская экспертиза. Министерство здравоохранения должно провести ведомственное расследование.

**TUT.BY**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 28.11.2015 у 13.55**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.